*Як судзілі — ведаем. А хто судзіў? (стар. 2) Хросны ход з амонаўцамі (стар. 4)*
*Господин Шаткин зашатался (стар. 5)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец "Газэта СВАБОДА, Ltd."
Наклад 42.000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 362441

31 траўня 1996 г. № 39 Кошт свабодны

## Для выбараў хопіць кожнага чацвёртага

**29 траўня Вярхоўны Савет уключыў у парадак дня сесіі пытанне аб правядзенні давыбараў у Вярхоўны і мясцовыя Саветы.**

Калі нічога не здарыцца, дэпутаты павінны разгледзець гэтую праблему на адным з бліжэйшых паседжанняў 30 альбо 31 траўня. Праект адпаведнай пастановы прадугледжвае правядзенне давыбараў у сярэдзіне лістапада. Нагадаем, што паводле рашэння Канстытуцыйнага суда выбары павінны быць прызнаныя адбыўшыміся, калі на іх прыйдзе 25 % выбаршчыкаў. Такія папраўкі ў Закон прыняў яшчэ папярэдні Вярхоўны Савет. Потым па ініцыятыве прэзідэнта яны былі разгледжаны Канстытуцыйным судом. Суд пастанавіў, што 25-працэнтная норма павінна ажыццяўляцца ў тым выпадку, калі ў Вярхоўны Савет будзе абрана легітымная колькасць дэпутатаў (больш за палову). Такое ж правіла дзейнічае і для мясцовых Саветаў: там, дзе яны ўжо абраныя ў легітымным складзе, давыбары пройдуць па 25-працэнтнай квоце. У тых мясцовых Саветах, дзе новых дэпутатаў яшчэ недастаткова для склікання першай сесіі (напрыклад, Мінскі і Гродзенскі гарадскія Саветы), там выбары павінны прайсці па старой 50-працэнтнай норме.

Намеснік старшыні парламенцкай камісіі па дзяржаўнаму будаўніцтву і мясцоваму самакіраванню Уладзімір Навасяд упэўнены, што пераважная большасць дэпутатаў падтрымае праект пастановы. У свой час супраць правядзення давыбараў вясной выступалі толькі «Згода» і аграрыі, якія звычайна спасылаліся на неабходнасць закончыць пасяўную. Але цяпер, па некаторых звестках, аграрыі гатовыя прагаласаваць за прызначэння даты давыбараў.

**Алесь ГАНКОВІЧ**

## Штаб-кватэру БНФ зноў абшукалі

*У сераду 29 траўня ў мінскай штаб-кватэры БНФ быў праведзены чарговы вобыск (ужо чацвёрты за апошнія два месяцы)*

Гэтым разам тры міліцыянты, супрацоўнік КДБ і следчы шукалі літаратуру, лістоўкі і матэрыялы, якія заклікаюць да правядзення несанкцыянаванага мітынгу. «Сышчыкі» перарылі ўсю штаб-кватэру і былі расчараваныя. Але, каб не сыходзіць з пустымі рукамі, яны сканфіскавалі нумар «Лукашенской правды», бюлетэнь мінскай гарадской арганізацыі БНФ ад 4 красавіка, казку «Баценька» на 6-ці старонках, ненадрукаваную працу Зянона Пазьняка «Беларускі шлях» на 48-мі старонках і спіс журналістаў.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## У Аршанскіх курапатах

**У нядзелю 2 чэрвеня (якраз на Тройцу) адбудзецца ўшанаванне памяці ахвяраў сталінізму ў Аршанскіх курапатах.**

Тут, каля вёскі Андрэеўшчына, якая знаходзіцца за адзін кіламетр ад Оршы, у 30-я гады НКВД расстрэльваў сваіх ахвяраў.

За апошнія пяць год актывістам Народнага Фронту з Талачынскага раёна ўдалося ўстанавіць імёны 320 вязняў, якія знайшлі тут апошні прытулак. Але прозвішчы яшчэ тысячаў і тысячаў ахвяр застаюцца невядомымі.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

ПАРТЫІ

## Ці стане «згода» «грамадой»?

*29 чэрвеня павінен адбыцца аб'яднаўчы з'езд беларускіх сацыял-дэмакратаў. Як мяркуецца, новая партыя будзе называцца «Народная Грамада»*

Сацыял-дэмакратычная фракцыя (16 дэпутатаў) у Вярхоўным Савеце ніколі не вызначалася трывалай канкрэтнасцю сваёй пазіцыі. У той час як галасаванне іншых дэпутацкіх груп можна спрагназаваць загадзя, меркаванне сацыял-дэмакратаў часам застаецца загадкай да апошняга моманту. Такая няпэўнасць тлумачыцца найперш «рознакаляровасцю» фракцыі, куды побач з зацятым апазіцыянерам «грамадоўцам» Паўлам Знаўцом уваходзяць былы паплечнік Лукашэнкі Уладзімір Нісцюк і былыя адказныя супрацоўнікі прэзідэнцкай службы кантролю Сечка, Жушма, Башарымаў. Усе яны прадстаўляюць Партыю народнай згоды (ПНЗ), якая мае ў фракцыі восем дэпутатаў.

Апошнім часам ПНЗ зведвае даволі сур'ёзныя і прыкметныя перамены. На сваіх апошніх паседжаннях Рада гэтай партыі прыняла рэзалюцыі, у якіх заявіла пра пераход ПНЗ у канструктыўную апазіцыю да палітыкі выканаўчай улады. Рада таксама падкрэсліла стратэгічны курс партыі на аб'яднанне з сацыял-дэмакратычнай Грамадой у адзіную арганізацыю. 29 чэрвеня павінны адбыцца з'езды абедзвюх партый, пасля чаго ў той жа дзень яны мусяць зліцца ў адзіную структуру з мяркуемай назвай — Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя «Народная Грамада». На першым часе ў яе будуць два сустаршыні.

Уладзімір Нісцюк, аднак, на адным з партыйных сходаў выказаў, мякка кажучы, сумненне ў неабходнасці аб'яднання. Па словах Нісцюка, пазіцыя цяперашняй Грамады амаль супадае з пазіцыяй БНФ. Нісцюк падкрэсліў, што ніколі не лічыў сябе працаўнікам прэзідэнта і ніколі не выйдзе на мітынг пад бел-чырвона-белым сцягам. Ён разам з кіраўніком партыі Леанідам Сечкам выступіў супраць палітыкі газеты «Згода», якая, на іх думку, перайшла на антыпрэзідэнцкія пазіцыі. Але большасць членаў кіраўніцтва ПНЗ не падтрымала такіх выступленняў сваіх дэпутатаў, назваўшы, напрыклад, падыходы Нісцюка згодніцтвам.

Тым часам намеснік старшыні ПНЗ Аляксей Кароль сцвярджае, што партыя цвёрда стала на дэмакратычныя пазіцыі і цвёрда ідзе да стварэння аб'яднанай моцнай беларускай сацыял-дэмакратыі. «Ва ўмовах, калі выканаўчая ўлада нічога не зрабіла для паляпшэння жыцця народа, калі ў грамадстве выспявае справядлівы сацыяльны пратэст, ПНЗ слушна выбрала пазіцыю канструктыўнай апазіцыі», — гаворыць Кароль.

Відавочна, што пакуль большасць «недэпутацкага» кіраўніцтва ПНЗ не збіраецца ажыццяўляць якія-небудзь «аргвывады» наконт тых членаў партыі, якія адыходзяць ад генеральнай лініі. Яны ўпэўнены, што некалькі дэпутатаў наўрад ці змогуць павярнуць усю партыю на прапрэзідэнцкія пазіцыі. Пытанне толькі ў тым, ці здолее партыя «перавыхаваць» сваіх парламентарыяў.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

## Консула нарэшце дапусцілі ў турму

**28 траўня ўкраінскі консул Уладзімір Калацій нарэшце сустрэўся з украінцамі, якія больш месяца знаходзяцца за кратамі ў мінскай турме.**

Па ягоных словах гэта першы выпадак у практыцы ўкраінскага знешнепалітычнага ведамства, калі дыпламатам на працягу такога доўгага тэрміну не давалі магчымасці сустрэцца з арыштаванымі суайчыннікамі.

У.Калацій сказаў карэспандэнту СВАБОДЫ, што хутчэй за ўсё суд над зняволенымі адбудзецца ў другой палове чэрвеня.

**В.В.**

## Amnesty International супраць пераследу Хадыкі і Сіўчыка

**Сусветна вядомая праваабарончая арганізацыя *Amnesty International* распачала акцыю супраць пераследу Юрыя Хадыкі і Вячаслава Сіўчыка.**

«Міжнародная амністыя» называе іх вязнямі сумлення і патрабуе ад беларускіх уладаў спыніць пераслед Ю.Хадыкі і В.Сіўчыка.

«Абставіны іх затрымання і прад'яўленыя абвінавачанні гавораць аб тым, што ўлады пераследуюць гэтых лідэраў БНФ выключна за іх палітычныя погляды і апазіцыйную дзейнасць» — адзначаецца ў прэс-рэлізе «Міжнароднай амністыі».

**Б.П.**

## Колькі нас у гарадах

**Міністэрства статыстыкі прадставіла апошнія звесткі пра колькасць жыхароў у гарадах Беларусі.**

На пачатак гэтага года былі наступныя лічбы: Мінск — 1,7 млн., Гомель — 512 тысяч, Магілёў — 367, Віцебск — 365, Гродна — 302, Брэст — 293, Бабруйск — 227, Баранавічы — 172, Барысаў — 153, Орша — 134, Пінск — 130, Мазыр — 108, Салігорск ды Ліда — па 101 тысячы жыхароў. Гэта пяказчыкі для буйнейшых (з насельніцтвам звыш 100 тыс.) гарадоў. Сярод меншых карціна такая: Наваполацк ды Маладзечна — па 97 тысяч, Полацк — 87, Светлагорск — 76, Рэчыца — 71, Жлобін — 69, Слуцк — 63, Слонім — 53, Жодзіна — 60, Кобрын — 52 тысячы чалавек.

## Студэнтаў не паменее

**Міністр адукацыі і навукі Васіль Стражаў паведаміў на прэс-канферэнцыі, што ў параўнанні з мінулым годам прыём у вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі не паменшыцца.**

Цяпер у беларускіх ВНУ вучацца 192 тысячы студэнтаў. 22 тысячы студэнтаў сёння атрымліваюць адукацыю ў 19 недзяржаўных ВНУ. Міністр таксама адзначыў, што сёлета павялічаны прыём на платныя аддзяленні дзяржаўных ВНУ. Нагадаем, што гэтыя аддзяленні вызвалены ад падаткаабкладання пры ўмове, што ўвесь прыбытак пойдзе на развіццё матэрыяльнай базы гэтых навучальных устаноў.

**СІМ**

# Як судзілі – ведаем. А хто судзіў?

***Многія з тых, хто быў асуджаны за падзеі 26 красавіка і адседзеў «суткі», цяпер падаюць скаргі ў вышэйшыя судовыя інстанцыі, аспрэчваючы вынесеныя ім прысуды***

Судовыя працэсы над удзельнікамі «Чарнобыльскага шляху» і выпадковымі грамадзянамі, якіх хапалі на вуліцах, выглядаюць генеральнай рэпетыцыяй паліцэйскага рэжыму.

На 65 арыштантаў (студэнтаў, навукоўцаў, журналістаў), якіх судзілі ў сценах спецразмеркавальніка на вул.Прылуцкай, было кінута каля дзесяці суддзяў з мінскіх судоў. Сярод іх: **Людміла Грачова** і **Сяргей Хрыпач** (суд Ленінскага раёна), **Валерый Есьман** (Цэнтральны райсуд), **Ларыса Мяльгуй** і **Генадзь Дашук** (Савецкі), **Міхаіл Лобан** і **Людміла Лапо** (Фрунзенскі), суддзя-стажор **Дзмітрый Рыбак** (Маскоўскі райсуд). Выязныя суды не з'яўляюцца навіной у судовай практыцы, але тых суддзі, з якімі мне ўдалося пагутарыць, упершыню судзілі ў спецпрыёмніку.

Чаму было прынята такое рашэнне? Старшыня Мінскага гарадскога суда Міхаіл Ардзяка тлумачыць: *«Каб не вазіць затрыманых па ўсім горадзе»*. Іншыя суддзі лічаць, што не хапала машын і аховы, і, акрамя таго, *«не трэба было ствараць ажыятаж»*. Суддзя Міхаіл Лобан, напрыклад, заявіў: *«Калі б на той момант мы іх пачалі развозіць па судах, сабралася б шмат разяваў і родных, з-за якіх немагчыма было б гаварыць з падсуднымі»*.

Відавочна, што акцыю на расправе з дэманстрантамі спланавалі так, каб усё прайшло аператыўна і ціха, без публікі. Судовыя працэсы былі фактычна закрытыя. На тэрыторыю спецразмеркавальніка, які мае асобы рэжым аховы, не магла прайсці не толькі шырокая публіка, але нават родныя і блізкія. Такім чынам, аказаўся парушаным адзін з асноўных прынцыпаў судаводства — публічнасць і адкрытасць. Старшыня гарадскога суда кажа: *«Калі не прапускалі публіку, то гэта прэтэнзія да міліцыі»*. Суддзя Сяргей Хрыпач заяўляе: *«Мы маглі запатрабаваць прапусціць родных, калі б яны сталі каля дзвярэй, а калі іх не дапусцілі на тэрыторыю, то гэта вырашыў начальнік установы»*.

Працэсуальны кодэкс дазваляе закрытае пасяджэнне суда ў тым выпадку, калі справа датычыцца дзяржаўных сакрэтаў ці закранае інтымныя бок жыцця падсуднага ці пацярпелага. Ні таго, ні іншага ў выпадку з дэманстрантамі не было.

Суддзі абвінавачваюць міліцыю, і гэта сведчыць пра тое, што яны трапляюць у пастку сілавых структураў, падначаленых выканаўчай уладзе. А гэтая акалічнасць мяняе правілы гульні.

**СВАБОДА папрасіла пракаментаваць красавіцкія судовыя працэсы Дзмітрыя Булахава.**

— Ёсць дзве катэгорыі, на якіх будуецца любое рашэнне суда. Перш за ўсё — закон, і другое — унутраная прававая свядомасць (тое, як суддзя разумее закон, гэта ўжо катэгорыя маралі). Што да закона, я ведаю з прэсы, што справы разглядаліся на закрытых судовых пасяджэннях. Гэта не вельмі разумна і не зусім адпавядае закону. Калі ж гаварыць пра мараль... Тут я не магу зразумець грамадзянскую пазіцыю суддзі. Суддзя павінны быць незалежным ад уціску ўладаў.

**— Вы лічыце, што ў гэтай сітуацыі ўлады націснулі на суддзяў?**

— Я ўпэўнены ў гэтым, бо вельмі добра разумею гэтую сістэму і ведаю, што адбываецца на самой справе. Нашыя законы на 99 % адпавядаюць усім міжнародным хартыям. Але справа не ў тым, як законы напісаныя, а як выконваюцца. З гэтым у нас не вельмі добра.

**— Як вы думаеце, чаму суддзі так лёгка паддаліся ціску?**

— Кожны суддзя, які хоча заўтра заняць нейкую больш высокую прыступку на службовай лесвіцы, разумее, што ў гэтай справе ён залежыць ад выканаўчай улады. Я думаю, гэта было самай вялікай і значнай акалічнасцю, якая паўплывала на вырашэнне справаў суддзямі ў закрытых пасяджэннях.

**— Прэса параўнала гэтыя «выязныя» суды з «тройкамі» 39-га года. Наколькі апраўдана такое параўнанне?**

— Яно вельмі эмацыянальнае, але вялікае пачынаецца з малога. Калі адразу не даць адпору, калі гэта стане звычайнасцю, то гэта вельмі небяспечная тэндэнцыя.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

*P.S. Рэдакцыі цікава было б даведацца, хто з суддзяў зрабіў грамадзянскі ўчынак і адмовіўся паехаць у спецпрыёмнік на закрытае пасяджэнне. Ці ёсць такія?*

ПОДРОБНОСТИ

# Такого еще не было

***Лидеры БНФ инициируют создание международной комиссии по медицинскому освидетельствованию президента Беларуси***

Как сообщил корреспонденту СИМ скрывающийся в Варшаве от преследования белорусских властей пресс-секретарь Белорусского народного Фронта (БНФ) Сергей Наумчик, в ближайшее время лидеры БНФ намерены обратиться к международным организациям с целью создания комиссии по освидетельствованию психического состояния президента Беларуси. «Действительно, в международной практике еще такого не было. Но признаки болезни у белорусского президента настолько очевидны, что необходимость создания комиссии не вызывает сомнений. Первая организация, куда мы намерены обратиться, — Совет Европы», — заявил г-н Наумчик.

Пресс-секретарь БНФ сообщил, что с 24 по 26 мая в Варшаве проходила научная конференция, посвященная взаимодействию Польши, Беларуси и Украины. Участие в ней с белорусской стороны приняли лидеры БНФ, председатель Объединенной гражданской партии Станислав Богданкевич, посол Беларуси в Польше г-н Бурский, советник президента Сергей Посохов, заместитель министра иностранных дел Иван Антонович и др. По словам г-на Наумчика, г-н Антонович безуспешно пробовал убедить участников конференции в том, что в Беларуси есть только одна подконтрольная президенту газета, что политзаключенных в Беларуси нет и т. д. В своем выступлении Сергей Посохов в очередной раз сообщил, что расширение *NATO* на восток недопустимо.

Г-н Наумчик сообщил также некоторые подробности переговоров президентов Ельцина и Лукашенко по вопросу соблюдения прав человека в Беларуси. Пресс-секретарь БНФ заявил, что руководство БНФ обратилось к известному русскому правозащитнику Сергею Ковалеву с просьбой выступить в защиту голодавших тогда г-д Сивчика и Ходыко. Г-н Ковалев переадресовал эту просьбу кандидату в президенты России Григорию Явлинскому, который на встрече с Борисом Ельциным проинформировал российского президента о нарушении прав человека в Беларуси. После этого состоялось несколько телефонных разговоров Александра Лукашенко и Бориса Ельцина. Г-н Наумчик подчеркнул, что «телефонные переговоры президентов проходили еще до последнего московского саммита глав государств СНГ, на котором Лукашенко фактически отказался поддержать кандидатуру Бориса Ельцина».

В ближайшее время лидеры БНФ по приглашению белорусской диаспоры намерены посетить США, где у них должны состояться переговоры с официальными лицами, а также Великобританию.

*СИМ*

# Противоречия между МВД и КГБ обостряются

Как стало известно из информированных источников в правоохранительных структурах, председатель КГБ Владимир Мацкевич направил докладные записки в адрес президента и государственного секретаря Совета безопасности.

В них он отмечает имевшие место факты неправомерных действий милиции в отношении сотрудников спецслужбы. В частности, приводятся ситуации, когда при выполнении служебных обязанностей и в личное время работники Комитета безосновательно, с нарушением закона, задерживались органами МВД. Причем в ряде случаев в отношении их имели место физические оскорбления, несмотря на предъявляемые удостоверения.

В свою очередь, министр внутренних дел Валентин Аголец дал указание подчиненным дополнительно разобраться со всеми фактами задержания работников КГБ. По версии милиции, с их стороны имели место только правомерные действия в отношении офицеров КГБ, которые в нетрезвом виде управляли автотранспортом или нарушали общественный порядок.

Следует отметить, что противостояние МВД и КГБ достигло своего пика после манифестаций, произошедших недавно в столице. По мнению милиции, сотрудники КГБ, не желая вмешиваться в сомнительные с точки зрения законодательства разгоны демонстраций, переложили ответственность за случившееся на МВД.

Однако после недавнего избиения подполковника КГБ работниками милиции сотрудники спецслужбы не остались в долгу. Одним из областных управлений Комитета в адрес вышестоящих инстанций были направлены документы, где делается вывод о связях одного высокопоставленного должностного лица министерства внутренних дел с организованной преступностью.

*СИМ*

# Улады змагаюцца з Максімам Багдановічам

**25 траўня каля помніка Максіму Багдановічу на Дзень памяці паэта сабралася каля чатарохсот чалавек, каб ушанаваць памяць вялікага Беларуса.**



Гэтыя ўшанаванні традыцыйна праходзяць вось ужо пятнаццаць год. Напачатку ад гарадскіх уладаў так і не ўдалося дабіцца дазволу на выкарыстанне агучвальнай машыны. У дзіўнае становішча была пастаўленая міліцыя. Забараняць традыцыйнае мерапрыемства, якое стаіць у афіцыйным плане работы музея, — падставы не было. Але буйная фантазія байцоў нябачнага кіруючага фронту працавала напоўніцу. А што, калі гэта замысліваецца чарговае антыдзяржаўнае выступленне? Таму міліцыі вакол помніка паэту хапала.

Тым не менш, урачыстасці прайшлі на добрым узроўні. Панаваў светлы і ўзнёслы настрой. Грамада прыйшла з нацыянальнымі сцягамі, з харугвамі. Навакольныя дрэвы былі маляўніча ўбраныя плакатамі і стужкамі. Былі выступы, чыталіся вершы, спяваліся песні. Міліцыя рабіла далікатныя заўвагі сцяганосцам, за што тыя скоса паглядалі на міліцыю, але не паддаваліся.

Рэванш аховай парадку быў узяты пазней, калі ўрачыстасці скончыліся. Мабыць, усё ж такі перамагла думка пра тое, што М.Багдановіч — гэта не наш, не «істинно» славянскі паэт. (Нагадаю, што памёр ён 25 мая 1917 года, ніяк не адрэагаваўшы на кастрычніцкі бальшавіцкі пераварот.) Таму пяць чалавек — чатыры студэнты і адзін сталы чалавек — ужо на адыходзе ад помніка былі схопленыя людзьмі ў цывільным і дастаўленыя ў Цэнтральны РАУС.

Не забыліся і на дырэктара музея Багдановіча Алеся Бяляцкага. На яго складзены пратакол, у якім ён абвінавачаны ў арганізацыі несанкцыянаванага мітынгу. Калі ён абурана спытаўся: *«За што? І пры камуністах жа адзначалі!»*, яму адказалі: *«Дык гэта пры камуністах. А цяпер іншая палітычная сітуацыя»*.

**Антоні КЛАЧКОЎСКІ**



КАДРЫ

## Міхаіл Мяснікові́ч – ветэран будаўніцтва светлай будучыні



**Гэтым кадрам мы адкрываем сёння новую рубрыку**

# Доўг Беларусі за энерганосьбіты працягвае расці

**Агульны доўг Беларусі за энерганосьбіты (па стану на 23 траўня бягучага года) склаў 6 трыльёнаў 393 мільярды 702 мільёны беларускіх рублёў.**

За мінулы перыяд 1996 года доўг павялічыўся на 1 трыльён 512 мільярдаў 364 мільёны беларускіх рублёў. У тым ліку за расійскі газ — на 1 трыльён 77 мільярдаў 571 мільён рублёў, за мазут — на 140 мільярдаў 336 мільёнаў рублёў, за электраэнергію — на 178 мільярдаў 990 мільёнаў рублёў.

*БелаПАН*

# Зарплату – цукрам

**На мінскім заводзе сродкаў комплекснай аўтаматызацыі (былое НВА «Гранат») нарэшце пачалі выдаваць зарплату за красавік, але не рублямі, а цукрам. У залежнасці ад сумы зробленых грошай рабочы атрымлівае ад 1 да 5 мяхоў салодкай прадукцыі.**

Калі меркаваць па характары тэлефонных званкоў у нашу рэдакцыю, то далёка не ўсе работнікі гэтага прадпрыемства задаволеныя «салодкай зарплатай» (бо ў некаторых няма грошай, каб купіць хлеба). Але, як заявіў карэспандэнту СВАБОДЫ галоўны інжынер завода Міхаіл Селіч, "цукар усё ж лепей, чым зусім нічога". Па ягоных словах, 110 тон цукру прадпрыемства атрымала па бартэры.

«Вядома, можна было б прадаць цукар камерсантам і потым грошы аддаць людзям, — кажа М.Селіч. — Але калі б мы гэта зрабілі, то нічога не атрымалі б. Наш рахунак знаходзіца «на картатэцы», і банк спісвае любыя паступленні».

**Валодзя ЯНЧУК**

# Маёмасць не купляюць

**Чарговы аўкцыён па продажы гарадской камунальнай уласнасці прайшоў у Гомелі.**

З 11-ці выстаўленых на таргі аб'ектаў было куплена толькі два атэлье, размешчаныя на цэнтральных вуліцах абласнога цэнтра. Гарадская казна ў выніку аўкцыёну папоўнілася ўсяго на 62 мільёны рублёў.

*БелаПАН*

# Ленін дагэтуль у цане

**У Лідзе закончыўся суд па справе разбурэння статуі Леніна, якая стаяла ў скверы на чыгуначнай станцыі.**

Аб прымітыўнасці помнічка сведчыць тое, што ён быў ацэнены ўсяго ў 30 долараў. Суд, аднак, прызнаў правадыра «культурна-гістарычнай каштоўнасцю». Жыхары Ліды В.Федасевіч і І.Струнеўскі, якія пашкодзілі статую, атрымалі адпаведна 2,5 і 1,5 года турэмнага зняволення ўмоўна.

**С.А.**

# Беларускі архіяпіскап з Амерыкі

**У недабудаванай царкве св.Панцеляймона ў Лідзе правёў набажэнства архіяпіскап Юры з Амерыкі.**

Архіпастырскае пасланне і казанні ён прачытаў па-беларуску, што пакуль вялікая рэдкасць у праваслаўных храмах. Лідскі прыход з'яўляецца аўтаномным ад Маскоўскага патрыярхата і падпарадкоўваецца Амерыканскаму сусветнаму патрыярхату.

**С.А.**

# «Птичку жалко...»

**Магілёўская абласная арганізацыя Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў абвясціла конкурс на адстрэл сарок і варон.**

Спецыялісты таварыства лічаць, што гэтых гарадскіх птушак развялося зашмат. За кожную забітую птушку будуць выдаваць бясплатна два патроны, а самых лепшых «паляўнічых» узнагародзяць прэміямі ў 300, 250 і 200 тысяч рублёў. Магілёўцам засталося няясна, як мяркуюць ацэньваць дасягненні тых, хто будзе забіваць птушак з дапамогай рагатак.

**Іван ЗАСАДА**

# Лёг на рэйкі

**66-гадовы жыхар Магілёва лёг на чыгуначныя рэйкі і быў перарэзаны лакаматывам.**

Самагубца пакінуў запіску, што ён па ўласнай волі вырашыў развітацца «з такім жыццём».

**Іван ЗАСАДА**

# «Хапун» на цыгарэтнай ніве

## *Яшчэ дзесяць дзён будзе грымець няроўная вайна: органы супраць бабуль-цыгарэтніц*

Цяжкія часы надышлі для вулічных гандляроў кантрабанднымі цыгарэтамі. Вось ужо другі тыдзень іх ганяюць, як мітынгоўшчыкаў. Цётак, якія трымаюць у руках пачкі цыгарэт, хапаюць пад «белыя ручкі» міліцыянты ды падатковыя інспектары ў цывільным і вядуць у пастарунак, дзе складаюць на іх пратаколы, вынікам якіх непазбежна будзе штраф. Каб пазбегнуць грашовых стратаў, жанчыны льюць слёзы, просяць «сыночкаў» аб міласцівасці і прапануюць ім свой небагаты «хабар» — пачак цыгарэт *LM* ці *Marlboro*.

Што ж прымусіла бабулек паважнага ўзросту заняцца цыгарэтным бізнесам і што прымусіла нашых «сілавікоў» распачаць супраць іх «хапун»?

### «Няхай бы мяне застрэлілі»

Нават на тварах, па вопратцы, па ўзросце гэтых жанчын бачна, што цыгарэтным бізнесам яны заняліся не ад салодкага жыцця. Тыповы адказ — «А як пражыць на пенсію?» Удакладненні, калі пачынаеш распытваць гандляроў, наступныя: «Мне толькі на лекі патрэбна штомесяц 200—300 тысяч, а дзе іх узяць?»; «Мая дачка не працуе, унукаў няма чым карміць, вось і займаюся продажам цыгарэт»; «Муж інвалід, дзеці яшчэ малыя, а як пражыць?» — гэтак адказала маладая жанчына з блукаючымі вачыма на стомленым твары. Саломінка, за якую яна і яе дзеці трымаліся ў апошнія тры месяцы, выслізгвае з рук — у любы момант побач могуць з'явіцца міліцыянты, і тады чакай новага штрафу. Ужо трэцяга за месяц. Два першыя з'елі ўсе прыбыткі ад месяцовага гандлю.

«Большасць з тых, хто гандлюе цыгарэтамі, — старыя людзі. Мы зарабляем за дзень няшмат: хто пяць, хто дваццаць пяць, ну максімум трыццаць—сорак тысяч рублёў» — расказвае Валянціна Д. з Камароўкі. Але якой цаной? «Дамоў прыходжу — валюся з ног. Здароўе ўжо не тое, ды і сорамна стаяць тут як жабрачка, — працягвае размову сяброўка Валянціны, жанчына ў хустачцы. — Ведаеце, калі сустракаю знаёмых, хаваю цыгарэты ў кішэню, бо сорамна. Я ж раней працавала на кіруючай пасадзе, абараніла кандыдацкую, і вось цяпер... Але не ў гэтым знявага — працы я не баюся. Сорамна, што нас давялі да жабрацтва, а цяпер пераследуюць, як тых чачэнцаў. Ва ўсім мы вінаватыя. Вось клянуся вам, я не супраць, каб мяне схапілі ды застрэлілі, калі я ўжо такая непатрэбная».

Усе мае знаёмыя «цыгарэтніцы» адзінадушна сцвярджаюць, што яны здольныя ў любы момант накінуцца альбо на міліцыянтаў, альбо на сваякоў, але хутчэй за ўсё нервовы зрыў, на мяжы якога яны знаходзяцца, прывядзе да дзеянняў супраць іх саміх. Ужо сёння ёсць некалькі выпадкаў самагубства. І нічога дзіўнага — ім было так цяжка перастуіць цераз свой гонар і стаць на тратуары з цыгарэтамі. Калі ж гэта ўсё ж адбылося, яны крыху супакоіліся, адчулі патрэбу ў сабе. І вось іх зноў гоняць з «нішы». Куды? Вядома ж, не ў сакратаркі да бізнесменаў, а хутчэй на... могілкі ці ў вар'ятню. «Ужо некалькі разоў мы з сынам па два-тры дні галадалі. Не было грошай нават на хлеб. І тады я папярэдзіла сына, што калі не вярнуся, шукаць мяне трэба ў Навінках», — сумна паведамляе Кацярына Ш.

### Крывадушша

Яму проста няма межаў. Людзей выкінулі з прадпрыемстваў, ім немагчыма ні ўладкавацца, ні распачаць свой бізнес, а тут яшчэ праследуюць тых, хто спрабуе неяк сам зарабіць.

Аднак справа выглядае нават цікавей. Тое, як уладкоўваецца гандаль тытунёвымі вырабамі, прыводзіць да высновы, што нехта ўсемагутны змагаецца не з кантрабандаю, а толькі з тымі, хто зніжае яму прыбыткі ад гэтай кантрабанды. Сістэма працуе наступным чынам. Імпартныя цыгарэты паступаюць у Беларусь больш з усходу, а часткова цераз украінскую мяжу. *LM*, *Marlboro* быццам бы амерыканскія, а на самой справе выраблюцца ў Турцыі, Іране і г.д., таму ўдвая і таннейшыя, чым на захадзе. Дзякуючы акцызным маркам, якія ўвёў Лукашэнка, «чорны» тавар заўсёды будзе таннейшым. Параўнайце: *LM* у бабулек каштуе 8—9 тысяч, а ў гандлёвых кропках — 9.800 рублёў. Адпаведна, той, хто забяспечвае падземны гандаль, і атрымоўвае асноўныя прыбыткі. Калі б дзяржава сапраўды збіралася прыпыніць кантрабанду, галоўны ўдар яна б накіравала не па апошнім звяне ў ланцужку — бабульках, а па папярэднім — па тым, хто забяспечвае іх цыгарэтамі. А праз іх лёгка было б выйсці і на арганізатараў кантрабанды. Аднак гэтага не робіцца! На бабулек вядзецца сапраўднае паляванне, у той час як ніхто не хапае тых хлопцаў, якія пад'язджаюць да Камароўкі на машынах і з багажнікаў раніцай прадаюць блокі цыгарэтаў оптам. Па словах аднаго прадстаўніка сілавых структураў, шмат кантрабанднага тавару хаваецца ў дзяржаўных крамах і гандлёвых базах, і таксама асаблівай цікавасці да іх кантрольныя органы не выказваюць. Навошта, калі ў іх зусім іншыя мэты?

«Два тыдні таму мы атрымалі сакрэтны дакумент, нават назву якога ад нас хаваюць, — расказвае прадстаўнік падатковых органаў, які папрасіў не называць яго прозвішча. — Нешта аб упарадкаванні гандлю цыгарэтамі і алкагольнымі напоямі ў грамадскіх месцах. Згодна з гэтым загадам, амаль усіх супрацоўнікаў падатковых структур горада (а гэта прыкладна дзве сотні чалавек) прымушаюць удзельнічаць у рэйдах супраць бабулек». Як сцвярджае крыніца, да чыстак прыцягнуты ажно загадчыкі аддзелаў. Правяральшчыкі ходзяць разам з міліцыянтамі. Кожная брыгада адпраўляецца ў рэйд праз дзень, нават у выхадныя дні. На кожную даведзены штодзённы план — 8—10 пратаколаў. Сведкі сцвярджаюць, што брыгады «па некампетэнтнасці» хапаюць любых гандлярак, але ў аддзяленнях міліцыі пачынаецца адсеў. Хутка на працоўныя месцы вяртаюцца якраз тыя, хто меў пры сабе па некалькі блокаў і прапаноўваў кліентам самы шырокі асартымент цыгарэт. Аказваецца, гэта і ёсць «цыгарэтная арыстакратыя». «Ім нічога не пагражае, — дзеляцца «простыя» бабулькі назіраннямі аб сваіх калегах. — У іх там усе купленыя. Свой тавар яны бяруць на долары, а гэта значна танней. Нас яны ганяюць ці перахопліваюць кліентаў, прапаноўваючы ім пачак на 500 рублёў танней. Мы стаім з двума пачкамі гадзіну, яны ж за гэты час «спускаюць» блок. Адна з іх шчыра папярэдзіла, што ў іх тут сапраўдная мафія і яны нікога не баяцца».

### У пошуках ста тысяч губляюцца мільёны

«Я ўпэўнены, што «хапун» на бабулек арганізаваны не толькі дзеля таго, каб зменшыць канкурэнцыю «сваім» гандлярам, — сцвярджае крыніца ў падатковых структурах. — Ускосным вынікам кампаніі з'яўляецца і тое, што на гэты час прыпыняюцца праверкі шмат якіх дзяржаўных і камерцыйных прадпрыемстваў, што падазраюцца ў махінацыях з падаткамі». І сапраўды, бюракратыя ёсць бюракратыя. Злодзеям яна някепска дапамагае. У інспектара падатковай службы і ў супрацоўніка падатковай міліцыі аднычасова ляжаць справы на мільёны, а яны вымушаны іх адкладваць у бок і ганяцца за паўгалоднымі жанчынамі, каб тым уляпілі штраф на 100 тысяч. На чыю гэта карысць? Хутчэй не дзяржавы, а тых, хто атрымлівае магчымасць схаваць канцы ці нават знайсці падыход да інспектара. «Пасля таго, як Лукашэнка скасаваў спецыяльны фонд, па якім 10 % вернутых дзяржаве падаткаў заставалася ў падатковай службе, колькасць выпадкаў хабарніцтва ў нас павялічылася, — сцвярджае мой суразмоўца і тлумачыць. — А што рабіць? Людзі атрымоўваюць капейкі, а побач ходзяць з вялікімі грашыма».

### Прэзідэнцкае пытанне

Героем амаль усіх разборак паміж тымі, хто штрафуе і каго штрафуюць, з'яўляецца прэзідэнт. Дзіўна, але так кажуць абодва бакі. Міліцыянты ды інспектары, пачуўшы скаргі бабулек на ўціск, заяўляюць ім: «Самы вінаватыя, вы ж такога прэзідэнта выбралі, вось цяпер і цярпіце». Жанчыны саромяць іх тым, што, маўляў, нельга выконваць кепскія загады. Усе згодны, што нельга, але нічога не мяняецца. «Мы за яго галасавалі, а ён людзей давёў да галечы». — абураецца Галіна У. з Камароўскага рынка. Мой аргумент, што і да Лукашэнкі ўжо было цяжка, яе не пераканаў. «За два гады можна было нешта зрабіць, але ж зменаў да лепшага не бачна, наадварот. Дакладна табе кажу: у нашым цыгарэтным асяродку ў Лукашэнку ўсе расчараваліся».

Магчыма, прэзідэнту раней даклалі аб гэтых настроях, таму і распачалася гэтая вайна па знішчэнні бабулек як класа?

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

*P.S. Па звестках з падатковай службы, «хапун» працягнецца да 11 чэрвеня, пасля чага падвядуць вынікі і вырашаць, як далей змагацца за чысціню паветра.*

# Царкве «поўнасцю давярае» кожны трэці

**Сацыялагічная служба Андрэя Вардамацкага правяла агульнабеларускае апытанне розных груп насельніцтва адносна даверу дзяржаўным і грамадскім структурам.**

Як паказала апытанне, найбольшым даверам сярод насельніцтва карыстаецца царква. Кожны трэці рэспандэнт (33 %) ёй «поўнасцю давярае». Практычна кожны чацвёрты апытаны (24 %) у такой жа ступені давярае прэзідэнту краіны і 15 % — «поўнасцю давярае» войску.

Іншыя дзяржаўныя і грамадскія інстытуты і арганізацыі карыстаюцца значна меншым даверам грамадзян. Так, ледзь не кожны трэці рэспандэнт (29 %) «поўнасцю не давярае» міліцыі, кожны чацвёрты (25 %) аналагічна ставіцца да мясцовых уладаў і кожны пяты «поўнасцю не давярае» традыцыйным прафсаюзам (22 %) і органам правасуддзя (20 %).

*БелаПАН*

# А Сцепаніда чамусьці не давярае



**Па бласлаўленні мітрапаліта Філарэта старшыня праваслаўнага брацтва Васіль Жычыкаў заключыў дамову з мінчанкай Сцепанідай С. аб куплі яе кватэры.**

Адзінокая хворая жанчына жыве ў трохпакаёвай кватэры (75 кв.м.). Як сказала Сцепаніда, старшыня брацтва прапанаваў «адмовіцца ад кватэры і пераехаць у пакойчык», дзе яе будуць абслугоўваць і даглядаць. Дзеля царквы жанчыне нічога не шкада, тым больш, што якраз памёр яе муж і Сцепаніда С. разгубілася, бо складана было плаціць за такую вялікую кватэру. У гэты час жанчыну і знайшло брацтва. Склаўшы дамову, Васіль Жычыкаў даў Сцепанідзе С. распіску, што будзе «захоўваць у сакрэце дамову аб куплі-продажы кватэры».

Але калі пра гэта даведаліся дзеці, што жывуць у Пінску, то ўчынілі скандал у мінскай епархіі. А Сцепаніда «адчула, што не туды трапіла», і запатрабавала скасаваць дамову. Па словах Сцепаніды, мітрапаліт Філарэт даслаў ёй запіску, што возьме дакументы назад.

Пасля гэтай няўдалай здзелкі ні брацтва, ні яго старшыня Жычыкаў не наведваюць хворую жанчыну. Навошта патрэбная была кватэра брацтву — Сцепаніда не ведае. Паводле нашых звестак, мінская епархія заключала падобныя дамовы не толькі са Сцепанідай С.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# Хросны ход з амонаўцамі

*Настойлівыя спробы А.Лукашэнкі пабудаваць новую ідэалогію, у якой камунізм замяняецца праваслаўем, прымушаюць прыглядзецца да гэтай з'явы больш уважліва*

## Рэлігійныя атэісты

Навукоўцы, якія вывучаюць тыпы рэлігійнай свядомасці, акрэслілі асобную форму свядомасці — *«атэістычную рэлігію»* ці *«рэлігійны атэізм»*, у якім адмаўленне рэлігіі набывае тую ж форму рэлігіі. Наш прыклад як бы крыху іншы. Шлях Лукашэнкі пралягае ад адмаўлення рэлігіі да яе прызнання, але без веры ў Бога. Ва ўсякім разе, гэта выглядае прыблізна падобным чынам.

Арыентацыя ў сваёй палітыцы выключна на Маскву вызначыла і ягоную прыхільнасць менавіта да праваслаўнай царквы, якая ў нас, як вядома, паранейшаму належыць да Маскоўскага патрыярхату. Не выклікае сумневу: калі Масква была б пратэстанцкай або якой іншай, праваслаўе мела б на Беларусі куды горшыя шанцы, чым сёння.

## Першы «камуніст»

Сучасная наменклатура, да якой належыць і наш «бацька», або замяніла партбілет на Біблію, або імкнецца спалучаць гэтыя дзве неспалучальныя рэчы. Галоўны расійскі камуніст Г.Зюганаў нават цынічна называе Хрыста «першым у гісторыі камуністам». Хаця добра вядома, што камуністы не менш зацята вынішчалі хрысціянства, чым калісьці рымляне.

Напрыклад, у 30-ыя гады, калі бальшавікі ваявалі з рэлігіяй, яны нават зрабілі 6-дзённы тыдзень, скасаваўшы нядзелю, каб рэлігійныя людзі не маглі паводле хрысціянскага звычаю адпачыць у гэты дзень ад працы і схадзіць на набажэнства! Сямідзённы тыдзень быў адноўлены толькі ў 1940 годзе, калі ўсе храмы былі ўжо зачынены.

## «Геніялісімус»

Атэістычная страсць Лукашэнкі да праваслаўя толькі на першы погляд здаецца чымсьці новым і арыгінальным. Ваяўнічую атэістычна-праваслаўную ідэалогію на практыцы «выдатна» прадэманстравалі ўсяму свету югаслаўскія камуністы, асабліва кіраўнікі баснійскіх сербаў, якіх міжнародны суд абвінавáціў у злачынствах супраць чалавецтва.

Дарэчы: будучае спалучэнне камунізму з рэлігіяй прадбачыў вядомы рускі пісьменнік-эмігрант У.Вайновіч — у рамане «Масква 2042». Толькі, як бачым, гэтая падзея адбылася значна раней. Паводле рамана, крамлёўскі лідэр атрымае тытул *«геніялісімуса»* (ад слова «геніяльны»), разам з якім будзе мець яшчэ чатыры, ключавыя ў дзяржаве, пасады. Напрыклад, генеральнага сакратара ЦК КПГБ — *«компартии госбезопасности»* і нават патрыярха ўсяе Русі! Ён, дарэчы, замест звычая хрысціцца загадае *«звяздзіцца»*! Аднак, як жа бываюць падобныя да праўды рэаліі сатырычнага рамана!

## Асадзі назад!

Часам даводзіцца чуць, што СВАБОДА перадузята ставіцца да праваслаўнай царквы. Гэта не так. У нашай газеце крытыкаваліся і ксяндзы, калі мы бачылі, што яны, напрыклад, праяўляюць фанабэрлівасць адносна беларушчыны. Але праваслаўная царква сёння ў фаворы, забяспечвае ідэалагічную платформу кіруючага рэжыму, што ненатуральна для сучаснага свецкага грамадства, для якога, між іншым, заўсёды была ўласцівая шматканфесійнасць. Таму царкве і дастаецца больш крытычных стрэлаў. Нагадаю, што абавязкам журналістаў з'яўляецца падтрымка тых, кім пагарджаюць.

Сітуацыя з сённяшнімі прывілеямі для праваслаўнай царквы вельмі нагадвае апісаную калісьці класікам беларускай літаратуры К.Чорным у рамане «Бацькаўшчына»... Па мястэчку рухаюцца дзве працэсіі — каталіцкая і праваслаўная. Але вось яны сутыкаюцца на галоўнай вуліцы і не ведаюць, як разысціся. Нарэшце адзін вусаты шляхціц прапануе праваслаўным падацца крыху ўбок, каб размінуцца. Яны згаджаюцца. І тут знянацку наперад вылятае ўраднік з крыкам на каталіцкую працэсію: *«Асадзі назад!* — раўнуў раптам адважны паліцэйскі. — *Жыва! Марш!»* А далей *«паліцэйскі арол адважна рушыў паўз пераможанага ворага, а за ім пайшла і ўся праваслаўная працэсія»*. А як жа інакш, калі дзяржаўная рэлігія ў Расійскай імперыі — праваслаўе!

Штосьці падобнае адбываецца ў сучаснай Беларусі. Дастаткова нагадаць наступныя словы Лукашэнкі: *«Из 26 конфессий православие по праву занимает в Беларуси ведущее положение. И как глава государства, я все время ощущаю поддержку православия в своей деятельности. Славянские народы должны объединяться, стремиться к единению на основе православия»*. Вядома, аднак, што далёка не ўсе славяне — праваслаўныя...



Братанне з патрыярхам Алексіем II

## «Галоўны паломнік»

Дзякуй Богу, пасля тых słоваў, сказаных на пачатку сакавіка, у рэзідэнцыі на Карла Маркса 38, мабыць, зразумелі, што напярэдадні 2000-гадовага юбілею хрысціянства небяспечна ўвесь час аддаваць перавагу адной хрысціянскай канфесіі і амаль ігнараваць другую — каталіцкую. І вось пасля таго мы ўжо бачым двойчы ў працэсіях абапал прэзідэнта патрыяршага экзарха Філарэта і кардынала К.Свёнтака. Іншая справа, што ў дзень працэсіі 26 красавіка ўлады прагнулі праліць кроў, а святары не прадухілілі яе...

Вельмі ненатуральна, па-мойму, гучаць з вуснаў «бацькі» словы *«а завтра мы пойдем крестовым ходом»*. Здаецца ж, ён пакуль яшчэ не «геніялісімус» і тым больш не патрыярх. Але час неверагодных падзей, падобна, ужо надыходзіць. Напрыклад, прыязджаюць вернікі ў дзень штогадовага паломніцтва, каб убачыць абраз Жыровіцкай Божай Маці. У Жыровічах жа ім прапануюць сустрэчу з прэзідэнтам (які не мае аніякага дачынення да царквы) і з сотнямі амонаўцаў ды міліцыянтаў, якія, напэўна, прыехалі на рэлігійнае свята, каб змагацца з атрадамі тэрарыстаў, і вельмі «аздобілі» сваёй прысутнасцю грамаду паломнікаў *(гл. на здымку)*. Падазраю, што ў думках ахова дбайна «звяздзілася».

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

*У Жыровіцкі манастыр прыехаў «Галоўны паломнік»*



ДАЙДЖЭСТ

# Дагавор з Расіяй палярызуе Беларусь

*Артыкул з Washington Post*

У мінулым месяцы прэзідэнт Беларусі Аляксандар Лукашэнка выканаў частку таго, што ён называе сваёй місіяй па яднанні славянскіх народаў. З блаславення патрыярха Рускай праваслаўнай царквы Лукашэнка і расійскі прэзідэнт Ельцын падпісалі Дагавор аб інтэграцыі дзвюх былых савецкіх рэспублік.

Гэты дагавор усталяваў неакрэсленую расійска-беларускую супольнасць, якая мае за мэту аб'яднаць сацыяльныя, эканамічныя ды юрыдычныя сістэмы. Але разам з тым падпісанне дагавора выклікала новы рух супраціўлення Лукашэнкаваму рэжыму. Дзесяткі тысячаў беларусаў выйшлі на дэманстрацыі ў Мінску, каб заявіць рашучы пратэст супраць пагрозы незалежнасці Беларусі.

Лукашэнка адразу абазваў дэманстрантаў *«хворымі людзьмі, якія паставілі сябе па-за законам»*. Улады арыштоўвалі сотні маніфестантаў, уварваліся ў штаб-кватэру апазіцыі, лавілі людзей проста на вуліцах і пагражалі забараніць апазіцыйныя партыі.

Па словах заходняга дыпламата, акрэдытаванага ў Мінску, палітычная сітуацыя тут *«напружаная і палярызаваная, як ніколі»*. Канфрантацыя ўзняла асноўнае палітычнае пытанне: ці можа выжыць незалежная Беларусь? Гэтае пытанне мае вялікае значэнне для стабільнасці ва Усходняй Еўропе, паколькі заходняя суседка Беларусі Польшча збіраецца ўступіць у *NATO*.

Сярод палітычных дзеячоў і палітолагаў у ЗША ды Заходняй Еўропе *«з'явілася тэндэнцыя наогул Беларусь з карты свету як незалежную краіну, бо Расія зноў авалодала ёй»*, — заявіў заходні дыпламат. Але супраціўленне Лукашэнку працягваецца. Ад 20.000 да 50.000 чалавек, па розных ацэнках, удзельнічалі ў дэманстрацыях супраць дагавора з Расіяй. Пераважная большасць з іх — гэта падлеткі і моладзь да трыццаці гадоў, якія ўтвараюць новую генерацыю, што вырасла ў незалежнай ад Расіі Беларусі.

Сярод былых савецкіх рэспублік Беларусь найменей цэніць сваю незалежнасць, якую яна атрымала падчас калапсу камуністычнай сістэмы. Яе культура, палітычная свядомасць ды нават сама назва краіны гістарычна прывязаны да Расіі, якая панавала тут больш за два стагоддзі. Калі развал Савецкага Саюза паралізаваў і шакіраваў камуністычную беларускую эліту, невялікі патрыятычны рух захапіў палітычную ініцыятыву, усталяваў гістарычныя нацыянальныя сімвалы ў якасці дзяржаўнага сцяга і герба, прызнаў дзяржаўнай беларускую мову і дэклараваў у канстытуцыйным парадку ваенны нейтралітэт.

Аднак Беларусь заставалася эканамічна залежнай ад Расіі, і, дзякуючы абяцанням запусціць заводы шляхам адраджэння былых эканамічных сувязяў з Масквой, Лукашэнка перамог на прэзідэнцкіх выбарах 1994 года. Ягоны дагавор ад 2 красавіка — гэта апошні крок у бясконцых расійска-беларускіх намаганнях дасягнуць гэтай мэты.

Праўленне Лукашэнкі дазволіла адрадзіць уплыў Расіі на гэтую краіну. Дзеля таго, каб ягоныя падначаленыя былі яму лаяльныя, ён прызначыў афіцэраў расійскай арміі на важнейшыя пасады ў сакрэтнай службе і ва ўзброеных сілах. Ён таксама вітаў сумеснае кантраляванне дзяржаўнай мяжы Беларусі з Польшчай і Балтыйскімі дзяржавамі.

Дагавор, падпісаны ў мінулым месяцы, паставіў перад Захадам пытанне, ці не стане Беларусь расійскім сатэлітам. Беларусь — гэта адзіная еўрапейская дзяржава, акрамя краін былой Югаславіі, якая дагэтуль не прынятая ў Савет Еўропы — арганізацыю, якая сочыць за захаваннем правоў чалавека і дэмакратычных прынцыпаў на кантыненце. У траўні група экспертаў СЕ павінна даследаваць беларуска-расійскія пагадненні і вызначыць, ці з'яўляецца Беларусь дастаткова суверэннай, каб быць прынятай у гэтую арганізацыю паўнапраўным членам.

Але *«рана разглядаць Беларусь як нешта «страчанае»*, — гаворыць адзін з заходніх дыпламатаў. Пры ўмове, што Беларусь хутка будзе мець дзяржаўную мяжу з членам *NATO*, *«будзе недаравальнай памылкай для Захаду аддаць Беларусь Расіі»*.

Беларуская эканоміка, на думку гэтага дыпламата, *«хутчэй за ўсё працягне каціцца ўніз па доўгай спіралі, што можа прывесці да сацыяльнага выбуху»*. Калі гэта здарыцца, то *«Лукашэнку не хопіць сілаў ваеннага ведамства, міліцыі і сакрэтнай службы, каб застацца пры ўладзе»*, кажа дыпламат.

**Джэймс РУПЕРТ**
*Washington Post, 21.05.96 г.*
***Пераклаў (са скарачэннямі) Глеб ЕРМАКОЎ***

ЗОРКІ

## Маленькая дробязь для Аляксандра Рыгоравіча

**Хто б мог падумаць, што канцэрт «Віртуозаў Масквы», якія выступалі ў мінскім Оперным тэатры ў панядзелак 27 траўня, завершыцца асвістанкем прэзідэнта Лукашэнкі.**

Праўда, самога Аляксандра Рыгоравіча ў зале не было. Замест яго напрыканцы канцэрта вылез на сцэну міністр культуры Сасноўскі і стаў зачытваць «приветствие президента Республики Беларусь». І зала адразу ўзарвалася. Публіка гэтак дружна пачала асвістваць і захлопваць «трансляцыю» прэзідэнцкага паслання, што міністр вымушаны быў рэціравацца са сцэны, нават не дачытаўшы тэксту. Для галоўнага «Віртуоза» Уладзіміра Співакова такая рэакцыя публікі была настолькі нечаканай, што ён спачатку трохі як бы разгубіўся. А потым (зразумеўшы, відаць, у чым сэнс) пачаў сваёю іранічнаю ўсмешкай падтрымліваць залу.

Публіка разыходзілася задаволеная — як самім канцэртам «Віртуозаў», які завяршыўся выкананнем іх кароннага нумара «Маленькая дробязь для Хрысціяна Андэрсана», так і апошнім нумарам (бясплатным) у выкананні міністра Сасноўскага.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

## «Мастацкі подзвіг» Мантсэрат Кабалье

*28 траўня сусветная оперная зорка выступіла ў Мінску*

Арганізатары ўлічылі канфуз папярэдняга дня, калі публіка асвістала міністра культуры Сасноўскага, які пачаў зачытваць прывітанне Лукашэнкі «Віртуозам Масквы». На гэты раз вядучы толькі аб'явіў пра тое, што прэзідэнт Беларусі накіраваў Кабалье віншавальную тэлеграму, але тэкст яе зачытваць не рызыкнулі. І слушна зрабілі, бо словы кшталту «мастацкі подзвіг» спявачка магла б проста не зразумець.



*Мантсэрат Кабалье пакідае Мінск*

Сярод высокапастаўленых аматараў вакальнага мастацтва выдатнай іспанскай спявачкі аказаліся пераважна прадстаўнікі выканаўчай улады. Дэпутатаў у зале Опернага тэатра не было відаць — запрашальныя білеты ім не далі, а за ўласныя 60—120 долараў (столькі каштаваў білет) гарачых прыхільнікаў таленту сусветнай зоркі ў парламенце не знайшлося.

Затое Кабінет міністраў і адміністрацыя прэзідэнта былі прадстаўлены даволі багата. Праваруч ад прэм'ер-міністра М.Чыгіра сядзела старшыня Нацыянальнага банка Тамара Віннікава ў ярка-блакітным касцюме, леваруч — віце-прэм'ер Леанід Сініцын, за спіной — начальнік аховы. Прысутнічалі таксама віцэ-прэм'еры Гаркун, Русакевіч, міністр фінансаў Дзік, міністр культуры Сасноўскі. Прэзідэнцкія структуры прадстаўлялі Міхаіл Мясніковіч, Уладзімір Замяталін і Сяргей Посахаў.

Гледачам, можна сказаць, пашанцавала, што на канцэрце не прысутнічаў прэзідэнт Лукашэнка, бо нават тая ахова, якая была, прыносіла нямала непрыемнасцяў. Мы з жонкай, напрыклад, сядзелі ў правым бенуары, дзе малады ахоўнік першыя хвілін дзесяць канцэрта услых па рацыі перадаваў сваім калегам нейкую «сакрэтную» інфармацыю, накшталт «тристо шестой, тристо седьмой... пришлите человека». Ахоўнікі таксама стаялі за кулісамі і перад сцэнай, не дазваляючы «простым» гледачам перадаць спявачцы кветкі.

Канцэрт працягваўся дзве гадзіны з антрактам. У першым аддзяленні адчувалася, што Кабалье беражэ свой голас пасля аперацыі — рэпертуар быў даволі спакойны, і Мантсэрат імкнулася не браць складаных нот. Аднак у другой частцы канцэрта вялікая спявачка (магчыма, расчуленая цёплым прыёмам публікі) пачала ўжо не шкадаваць сябе. Чатыры разы яна пакідала сцэну і чатыры разы вярталася пад захоплена-настойлівыя авацыі залы. Усміхаючыся сваёй абаяльнай і добрай усмешкай, Мантсэрат «здавалася» і спявала новую партыю. Закончыўся канцэрт імправізацыяй, дзе Кабалье на развітанне падаравала Беларусі самыя моцныя і чароўныя гукі свайго непаўторнага, непераўзыйдзенага голасу.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

ИНСТРУКЦИЯ

## Дж. Оруэлл: «Ваши фотографии будут переработаны и использованы для нужд пролетариата»

*Краткая инструкция для авторов документальных фильмов, создаваемых на территории РБ*

### 1. Сценаристу

Написать сценарий в кратчайшие сроки с максимальным удовлетворением пожеланий заказчика. В названии фильма употребить слова, которые у ПСЧ (здесь и далее — *Простого Советского Человека*) должны вызвать тревогу и настороженность. Иметь в виду, что особенно перспективны кадры, создающие у зрителя иллюзию суеты и ненормальности происходящего.

### 2. Режиссеру

Из предоставленного материала склеить остросюжетный, занимательный и запоминающийся фильм с яркими образами врагов ПСЧ. Постараться произвести впечатление, что кадры, отснятые платными сотрудниками, предоставлены неким любителем.

### 3. Оператору

При съемке делать акцент на динамическую сторону происходящих событий. Абсолютно необходимо: отыскать и отснять в толпе нескольких (варианты) *а) пьяных, б) юродивых, в) буйных, г) просто несимпатичных лиц*. На физиономиях организаторов проследить и зафиксировать: *гнев, страх (особенно), раздражение, растерянность, досаду (особенно)*. Хотя бы один раз снять светлый клочок неба как символ надежды среди хаоса и беспорядка.

### 4. Актеру за кадром

Ненавязчиво постараться внести в сознание ПСЧ, что в рядах (варианты) *а) демонстрантов, б) пикетчиков, в) митингующих, г) просто стоящих людей абсолютное большинство составляют криминальные элементы, временно находящиеся на свободе*.

Голос за кадром должен быть приветлив и слегка ироничен. Окрас — мягкий баритон. *Белорусские слова и выражения употреблять исключительно с целью усиления негативности происходящего*. Рекомендовано остановиться на моральных и финансовых потерях для ПСЧ (в лице горисполкома, транспортников, окружающей среды и пр.). Желательно использовать следующие выражения и фразы: *«интересно, сколько заплатили», «и это в то время, как», «кто за этим всем стоит», «а где были эти», «что-то не припомнится» и т.п.*

Изыскать возможность и привлечь для выполнения данной работы кого-либо из известных (варианты) *а) актеров, б) художников, в) композиторов, пользующихся уважением среди представителей ПСЧ*.

Помнить, что на фоне документальных кадров любые соображения и домыслы можно выдавать как аксиомы.

Всем четверым принять к сведению, что заказ является государственным и последующие судебные иски и обвинения в ваш адрес судами удовлетворены не будут.

Сметная стоимость и сроки работ определяются дополнительно. Командировочные расходы и премиальные выплачиваются сразу после предоставления фильма заказчику.

**АДМИНИСТРАЦИЯ**
*(Исполнитель В.Мицкевич)*

СПОРТ

## Азербайджан – не «Трэ крунур», але...

*ФУТБОЛ:* **У «АЯКСА» ГАНАРАРЫ ВЫШЭЙ**

- У панядзелак 27 траўня нацыянальная зборная Беларусі правяла генеральную рэпетыцыю перад стартам у адборачным турніры чэмпіяната свету-98 (1 чэрвеня ў Стакгольме каманда Сяргея Бароўскага будзе супрацьстаяць «Трэ крунур»), сустрэўшыся з камандай Азербайджана. Матч адбываўся ў Маладзечне і скончыўся мірам — 2 : 2. Мячы ў беларусаў забілі Пётр Качура (з пенальці) і Аляксандр Кульчый. Наўрад ці варта надаваць значэнне не вельмі пераканаўчаму для нашай каманды выніку: сустракаючыся з азербайджанцамі, беларуская зборная мела на ўвазе перш за ўсё матч са шведамі...
- Адзін з заўтрашніх супернікаў каманды Бароўскага, 28-гадовы нападаючы зборнай Швецыі Марцін Далін, перайшоў з мёнхенгладбахскай «Барусіі» ў італьянскую «Рому», падпісаўшы з італьянскім клубам кантракт на тры гады. Яшчэ некалькі пераходаў, якія адбыліся на мінулым тыдні: Кларэнс Зеедорф, ігрок зборнай Галандыі, пакінуў італьянскую «Сампдорыю» і накіраваўся ў «Рэал» з Мадрыда, а Ален Бокшыч са зборнай Харватыі з «Лацыо» перабраўся ў «Ювентус».
- На паседжанні выканкама, якое праходзіла ў Рыме, *UEFA* канчаткова падпарадкаваўся рашэнню Еўрапейскага суда па «справе Босмана». Цяпер поўнасцю адмененыя ўсе абмежаванні на замежнікаў у клубах, якія ўдзельнічаюць у еўракубкавых турнірах. Датычыцца гэта не толькі легіянераў з краін ЕС, але і з усіх астатніх дзяржаваў. На гэтым паседжанні былі названыя восем камандаў, якія вызвалены ад гульняў кваліфікацыйнага кругу Лігі чэмпіёнаў-96/97 і якія пачнуць спаборніцтвы з другога этапу. Гэта «Ювэнтус» і «Мілан» (абодва — Італія), «Асэр» (Францыя), «Атлетыка» (Іспанія), «Барусія» (Дортмунд, Германія), «Аякс» (Галандыя), «Порта» (Партугалія), «Манчэстэр Юнайтэд» (Англія). А расійскай «Аланіі» (Уладзікаўказ) трэба будзе прабівацца ў групавы турнір з дапамогай кваліфікацыйных паядынкаў.
- Сталі вядомыя сумы, якія зарабілі клубы ў турніры Лігі чэмпіёнаў-95/96: «Аякс» — 16,05 млн. швейцарскіх франкаў, «Ювэнтус» — 15,15, «Панатынаікас» — 11,2, «Нант» — 10,75, «Спартак» — 10,2, «Барусія» — 7,95... Нягледзячы на паразу ў фінале турніру, па ганарарах галандцы пакінулі «старую сін'ёру» ззаду.

*ХАКЕЙ:* **НЕДАВЕР СІДАРЭНКУ**

- 20 вядучых беларускіх хакеістаў (14 з іх адстойвалі гонар краіны на мінулым чэмпіянаце свету ў групе *B*) выказалі недавер трэнеру зборнай Андрэю Сідарэнку: у сваім лісце ў Беларускую федэрацыю хакея яны ўказалі на «грубыя памылкі трэнерскага саставу».
- Нават згуляўшы па пяць матчаў, прадстаўнікі квартэту вядучых клубаў *NHL* не могуць выявіць фіналістаў. 27 траўня «Дэтройт» перайграў «Каларада» — 5 : 2, але лідэрства па колькасці перамогаў у гэтай серыі засталося за «Лавінамі» — 2 : 3. А назаўтра «Пітсбург» адолеў «Флорыду» і павёў у серыі 3 : 2.

*БАСКЕТБОЛ:* **ЧЭМПІЁНСКІ КУБАК ПЕРАЕХАЎ У ГРОДНА**

- Цікавай серыяй плэй-оф завяршыліся мужчынскі і жаночы чэмпіянаты Беларусі. Упершыню за чатыры гады існавання спаборніцтва чэмпіёнам у мужчынаў стала каманда «Гродна-93», якая тройчы перамагла мінскі РТІ-РШВСМ. Матч за трэцяе месца выйграў «Аўтазаводзец-Джэнці», які расправіўся з РВАРам з такім жа лікам. Слабы пол болей кансерватыўны: чацвёрты запар чэмпіёнскі тытул заваяваў «Гарызонт-1», які ў трох матчах перайграў выхаванак РВАРу. А бронзу мінскі РШВСМ узяў у куды больш упартай барацьбе. Спатрэбіліся ўсе пяць матчаў серыі.
- Першым у фінал плэй-оф *NBA* выйшла фенаменальная каманда Майкла Джордана. «Чыкага» ўсухую (4 : 0) завяршыў серыю з «Арланда» (апошняя сустрэча скончылася з лікам 106:101). «Юта» атрымала другую перамогу над «Сіэтлам» — 98:95 — і пакуль саступае ў серыі свайму суперніку з лікам 2:3.

**Сямён ПЛОЦ**



Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by © СВАБОДА Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 42.000
Нумар падпісаны ў друк 30.05.96 (15.00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 10 Заказ 242